№29 май 2013

# Настаўнік.info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

## Мікалаю Іванавічу Запрудскаму – 65

Шаноўны Мікалай Іванавіч!
Калісьці падчас семінара Вы задалі настаўнікам ключавое пытанне: «Кітайцы далі чалавецтву паперу, індыйцы – шахматы, арабы – лічбы... Што ж далі свету беларусы?»
Шмат настаўнікаў пачалі думаць, шукаць адказ. Нялёгкае пытанне.
Але адзін адказ дакладна знайшлі – беларусы далі свету сучасную педагогіку! Ідэі Выгоцкага і Запрудскага перавярнулі ўяўленні пра падыходы да навучання, прывялі ў сістэму і паставілі ўсё з галавы на ногі ў сучаснай педагагічнай навуцы і практыцы.
Леў Выгоцкі нарадзіўся ў Оршы, вучыўся ў Маскве ва ўнверсітэце Шаняўскага (Шаняўскі – этнічны беларус, які заснаваў ліберальны ўніверсітэт, дзе маглі вучыцца людзі ўсіх вераў і нацыянальнасцяў, у тым ліку Янка Купала), Выгоцкі зрабіў усе свае даследаванні ў Гомелі, калі выкладаў для беднаты, у педвучэльні, школе для дашкольных педагогаў. Ездзіў па Беларусі з лекцыямі. У Маскву яго запрасілі ўжо хворага, толькі для таго, каб ён паспеў аформіць свае працы. Ідэі Выгоцкага зрабілі рэвалюцыю ад педагогікі ведаў – да педагогікі развіцця. Яны былі распрацаваныя для нашага псіхатыпу і ментальнасці. Таму яны так добра прыжываюцца ў Беларусі, ва ўсёй Еўропе і на кантынентах, заселеных еўрапейцамі.
Мікалаю Запрудскаму дасталася задача не лягчэйшая, чым яго папярэдніку Выгоцкаму, можа нават і больш важная. Трэба было вярнуць у беларускую школу, скалечаную камуністычнай прапагандай і пабудаваную на прынцыпах армейскай падрыхтоўкі і індактрынацыі, ідэі педагогікі развіцця, гуманізму, любові да дзяцей і павагі да асобы.



Мы пакуль яшчэ не можам ацаніць ролю Мікалая Запрудскага ў еўрапейскай педагогіцы. Але Вашыя ідэі, дарагі Мікалай Іванавіч, ужо жывуць незалежна ад Вас у розных краінах. Яны сталі класікай, як законы Ньютана ці пастулаты Бора. Па Вашыя кнігі стаяць чэргі ў школьных бібліятэках, выраз «мэты ўрока па-Запрудскаму» стаў ідыёмай. Гэта прыкмета майстэрства і ўсеагульнага прызнання. Калісьці рэдакцыю Nastaunik.info разам з іншымі настаўнікамі запрасілі на сустрэчу з педагогамі Літвы. Літоўцы не дазволілі нам крытыкаваць нашу школу. Яны сказалі, што яны не ведаюць у Еўрасаюзе такой асобы, як у нас, каб вучыцца педагогіцы – яны ездзяць у Беларусь у АПА да Запрудскага.
Дарагі Мікалай Іванавіч! Вы малады, таму што чалавек пачынае старэць, калі не развіваецца. Вы багаты – у Вас вельмі шмат добразычліўцаў і паслядоўнікаў.
Вы – нашае нацыянальнае багацце і каштоўнасць!
Мы Вам удзячны за магчымасць у Вас вучыцца.

Віншуем Вас і зычым плёну ў працы!

*Nastaunik.info*

*Рэгіён*

## ДЭФІЦЫТНЫ БЮДЖЭТ, ДЭФІЦЫТНЫЯ ШКОЛЫ

*Іна Хоміч*

*Паводле http://bk-brest.by/ru/177/education/5566/*

Калісьці я не падазравала, што вучуся ў малакамплектнай школе. Нас было меней за сто, мы ўсе адзін аднаго ведалі і думалі, што гэта норма. А ў класе – дык і зусім шасцёра, маленькая ўтульная сям’я.

У школу я дабіралася 7 кіламетраў пешшу ці на ровары, аднак калі адчувала хваробу, старалася яе ўсяляк схаваць ад родных, каб не дай божа не пакінулі дома. Не скажу, што ў мяне ўклалі нейкія суперведы, але дамашнія заданні рыхтавала рэгулярна.

Школу гадоў пяць таму закрылі. Для педагогаў гэта, напэўна, была трагедыя, астатнія ўспрынялі нармальна. Бо рэчаіснасць была не на баку ўстановы – дзеці засталіся хіба ў самім Мікалаеве, а Мікалаева – гэта, лічы, прыгарад Каменца. Трымаць малакамплектную школу не было рэзону, усе гэта разумелі.

Такіх школ ужо закрылі некалькі сотняў па ўсёй Беларусі, і працэс толькі набірае абароты – беларусаў, як вядома, больш не становіцца, ды і дэфіцыт бюджэту падціскае. Але наколькі мэтазгодным з’яўляецца закрыццё кожнай канкрэтнай установы? Ці належным чынам разбіраюцца ў сітуацыі перад тым, як зрабіць непапраўнае, дзяржаўныя мужы? Бацькі дзяцей, што ходзяць у Яцкавіцкую базавую школу, у гэтым сумняваюцца.

*(Працяг на стар.2)*

**ДЭФІЦЫТНЫ БЮДЖЭТ, ДЭФІЦЫТНЫЯ ШКОЛЫ >> СТАР. 1-2**

**ПЕСНІ, ВЕРШЫ ДЛЯ СВЯТА >>> СТАР. 4**

Рэгіёны

# ДЭФІЦЫТНЫ БЮДЖЭТ, ДЭФІЦЫТНЫЯ ШКОЛЫ



(Пачатак на стар.1)

**Пытанне разглядаюць ці разгледзілі?**

Пра магчымае закрыццё Яцкавіцкай школы бацькі і педагогі даведаліся з раённай газеты. Здагадваючыся пра тое, што наўрад дзяржаўная газета дапусціла «досадную ошибку», бацькі тут жа пачалі атакаваць і саму школу, і раённы аддзел адукацыі, і нават старшыню аблвыканкама роспытамі пра сапраўдны лёс установы.

У школе толькі рукамі разводзілі – педагогі самі ведалі не болей, а вось ад начальства маме дзвюх школьніц Таццяне Траццяковіч прыйшоў адказ, сустрэты ёю і астатнімі бацькамі вельмі трывожна. Намеснік старшыні аблвыканкама Леанід Цупрык быццам і пісаў, што канчаткова рашэнне аб закрыцці школы будзе прымацца толькі пасля заканчэння навучальнага года і ўсебаковага разгляду пытання, аднак падазрона падрабязна распісаў усе мінусы навучання ў Яцкавіцкай школе, не забыўшы назваць плюсы пераводу дзяцей у буйнейшую ўстанову. Варыянты таксама агучаныя – сярэднія школы ў Вельямовічах і Новых Лышчыцах.

Што да аргументаў, якія намеснік старшыні аблвыканкама, а пасля і іншыя чыноўнікі называлі на карысць закрыцця, то яны зусім не новыя. Малакамплектнасць у цэлым школы – 39 чалавек – і большасці класаў паасобку – 5 і больш за 5 чалавек маюць толькі два класы, – якая цягне за сабой, на думку адукатараў, нізкі ўзровень якасці навучання. Немагчыма тут ствараць факультатывы і гурткі, арганізаваць групу падоўжанага дня, праводзіць культурна-масавыя мерапрыемствы.

Прыпомнілі школе і тое, што ацяпляецца яна з дапамогай цвёрдага паліва, прыбіральні знаходзяцца на вуліцы, кабінеты хіміі, біялогіі і фізікі не адпавядаюць патрабаванням, а ў кабінетах пачатковых класаў адсутнічае мэбля, што рэгулюецца па вышыні, – самы выкшталцоны аргумент людзей, у абавязкі якіх уваходзіць пра гэтую мэблю парупіцца.

**Аргументы – бацькам на смех**

Бацькі, з якімі давялося пагутарыць, пералічаныя аргументы не ўспрымаюць усур'ёз.

– Мы самі жывем у доме, дзе няма ўнутранай прыбіральні. Чаму раптам трагедыяй стала, што няма яе ў школе? – зазначае Таццяна Трацяковіч.

– Усе бацькі цалкам задаволеныя той якасцю адукацыі, якаю даюць нашым дзецям, – эмацыйна падтрымлівае аднавяскоўку Наталля Вакулюк – Нам прыводзяць довад, што тут няма групы падоўжанага дня… дык яна нам і не патрэбна. Пакуль дзеці малыя, я хачу іх бачыць. Увогуле нам падабаюцца нашыя настаўнікі, нашая школа, і мы не хочам іншую!

Зразумела, што добры педагагічны калектыў ніколі не стане прычынай, па якой школу вырашаць пакінуць. Эканамічна немэтазгодна прыглядацца да кадраў. Аднак да інтарэсаў дзяцей прыгледзецца варта, таму давайце зірнем на праблему з іх пункту погляду.

Тобок для чаго дзецям патрэбная новая школа?

Каб стаць часткай большага калектыву? Яны якраз гэтага пазбягаюць – успомнім сябе пры пераводах у новыя школы і нават проста класы. Сельскім дзецям патрэбныя гурткі і факультатывы? Таксама пытанне хутчэй рытарычнае. Але калі нават і патрэбныя – давайце разарымся яшчэ крышку і некалькі створым. Дзецям не хапае культурна-масавых мерапрыемстваў? Аднак з гэтым кардынальна не пагаджаюцца настаўнікі. Кажуць, усяго тут хапае, чаму пацвярджэнне школьны фотаархіў. І мерапрыемствы, дарэчы, такія, што гарадскія дзеці яшчэ пазайздросціць могуць. Застаюцца толькі некаторыя пытанні санітарна-гігіенічнага плану, пры жаданні лёгка вырашальныя.

А ў новую школу дзяцей трэба вазіць. І бацькам абяцаюць, што так яно і будзе. Аднак навучаныя горкім вопытам са старшакласнікамі, якіх нібыта возяць у Лышчыцы, і дашкалятамі, якіх возяць у Вельямовічы, дарослыя ставяцца да гэтай ідэі архіскептычна. «Дзеці больш пешшу ходзяць, чым іх возяць», – гаворыць Таццяна Філашова, і гэтая думка трывожна прысутнічае ў размовах усіх мацярок.

Нават калі ўзяць лепшы варыянт і дапусціць, што адзіны аўтобус сярэдняй школы ламацца не будзе, дзецям усё адно ад той язды мала карысці. Возяць звычайна ўсіх разам, а значыць хтосьці пасля ўрокаў будзе беспрытульна бадзяцца ў чаканні аўтобуса, а хтосьці будзе ехаць адразу пасля заняткаў, і тады ні пра якія факультатывы па-ранейшаму не будзе ісці гаворкі. Плюс немалаважны момант бяспекі здароўя дзяцей: «Мой сын ездзіць так у садок у Вельямовічы. Дык ён пераважна дома сядзіць. То прастудзіцца, пакуль таго аўтобуса дачакаецца, то аўтобус зламаецца. У выніку зусім перасталі яго ў садок адпраўляць. Такой жа язды толькі ў школу я не хацела б», – упэўнена кажа Наталля Вакулюк.

**Калі падсумаваць…**

… і аб'яднаць інтарэсы дзяцей, бацькоў, настаўнікаў і грамадства, то атрымаем некалькі важкіх аргументаў супраць закрыцця Яцкавіцкай базавай школы. Гэта, па-першае, далёка не так і карысна дзецям; гэта, па-другое, выкіне на вуліцу паўтара дзясяткаў людзей (не бярэм у разлік міфы аб працаўладкаванні – пакажыце школу, дзе ёсць, напрыклад, вакансія настаўніка беларускай мовы); і гэта, па-трэцяе, прывядзе да паступовага заняпаду саму вёску. Бо, як гавораць мясцовыя, чатыры сотні чалавек тут жыве ў многім дзякуючы якраз школе – яе наяўнасць з'яўляецца істотным фактарам пры выбары месца жыхарства маладых сямей.

Дарэчы, апошніх тут нямала. Застаюцца ў Яцкавічах і карэнныя месцічы, бо не вельмі далёка дабірацца на працу нават у Брэст; прыязджаюць сюды і перасяленцы. Маладыя сем'і – гэта надзея школы, і пакуль яны сябе апраўдваюць. Лічыце самі: з 39 вучняў школы толькі двое ходзяць з іншай вёскі, астатнія – тутэйшыя. Ёсць таксама шмат дашкалят. Нават па дадзеных, узятых з адказу Цупрыка, выходзіць, што бліжэйшыя 5 год у першы клас будзе прыходзіць ад 4 да 6 чалавек. І гэта зусім не апошнія з магікан, бо толькі па стане на сакавік гэтага года ў Яцкавічах было 9 цяжарных жанчын. У якой неперспектыўнай вёсцы вы такое бачылі? А перспектыўнай вёсцы школа, вядома, патрэбна.

**Хто прыдумвае лічбы?**

Так што вельмі сумніўнай атрымліваецца эканомія. Такое ўражанне, што ў Мінадукацыі не разглядаюць мэтазгоднасць існавання кожнай канкрэтнай установы, а кіруюцца выключна колькаснымі паказчыкамі, якія маюць уласцівасць мяняцца. Ёсць дзве магічныя лічбы, якімі пужаюць вясковыя школы, – 50 і 5. Няма пяцідзесяці вучняў – прыкрыем школу, няма пяці дзяцей – не адкрыем клас.

Незразумела, адкуль пайшла такая ўстаноўка на шматколькаснасць як абавязковую ўмову якаснай адукацыі. Калі шмат вучняў у класе – гэта так эфектыўна, то чаму на прыватных курсах моў ці развіццёвых групах для дзетак рэдка бывае больш за 10 чалавек? Пры тым, што прыватнік пераследуе выгаду, і яму было б лепш набраць як мага больш людзей. Але ў такую групу ніхто не пойдзе.

І яшчэ пра эканомію. Нашая дзяржава пакуль карыстаецца тым, што мы не можаш распараджацца сваімі падаткамі. Бо калі б у нас спыталі, куды мы хочам накіраваць свае адсоткі ад зарплаты, то праблем са школамі, дзіцячымі садамі, паліклінікамі і нават транспартам не існавала б увогуле. Пакуль жа мы ўкладаем грошы ва ўзбраенне і да таго падобнае, а эканомім на дзецях.

# Набор у беларускамоўныя школы і садкі:

**Пачынаецца набор у беларускамоўныя школы і садкі: кантакты**

Ад 3 чэрвеня пачнецца набор у першыя класы школ.
Калі вы хочаце аддаць дзіця ва ўжо існую беларускамоўную школу, улічыце, што часам у школе набіраюць у класы з рознымі замежнымі мовамі (напрыклад, у мінскай гімназіі №23 традыцыйна «А» клас – з англійскай, а «Б» – з кітайскай). Звяртайцеся ў школу як мага раней, каб падаць заяву ў першы ж дзень прыёму дакументаў, інакш усе месцы могуць аказацца занятыя.
Паводле інфармацыі Белстата, у гэтым навучальным годзе больш за 151 тысячу школьнікаў (16,4% ад агульнай колькасьці) вучыліся па-беларуску.
Ва ўстановах дашкольнай адукацыі «выхавальнікі гавораць на беларускай мове» з больш чым 45 тысячамі хлопчыкаў і дзяўчатак (11,4% дзяцей, якія наведваюць гэтыя ўстановы). На беларускай і расейскай – з 15,2 тысячы дзяцей (3,8%).

**Мінск. Беларускамоўныя школы і гімназіі**
• Гімназія №4 (Кунцаўшчына, 18): навучанне ў фізіка-матэматычных, хіміка-біялагічных і філалагічных класах.
E-mail: gymn4@minsk.edu.by ; т.: (017) 258–49–71, 258–49–74.
• Гімназія №23 (пр. Незалежнасці, 45): выкладанне на высокім узроўні англійскай, кітайскай моваў.
E-mail: gymn23@minsk.edu.by ; т.: (017) 284–47–62, 284–87–16.
• Гімназія №9 (Сядых, 10): паглыбленае вывучэнне англійскай мовы, факультатыўнае – польскай. Прапануе вывучэнне прадметаў музычнага цыкла.
Т.: (017) 283–04–21, 281–38–04.
• Гімназія №28 (Ракасоўскага, 93): паглыбленае вывучэнне французскай мовы, міжнародныя абмены, выкладанне прадметаў на французскай мове (краіназнаўства, літаратура Францыі) па праграмах, распрацаваных настаўнікамі школы.
E-mail: sch2@minsk.edu.by ; т.: (017) 248–32–02, 248–12–64.
• Гімназія №14 (Васняцова, 10): паглыбленае вывучэнне замежных моваў, спецкурсаў па міфалогіі, псіхалогіі, асновах эканамічных ведаў, журналістыцы. На базе гімназіі дзейнічаюць фальклорны ансамбль, музеі, літаратурная студыя і студыя бальных танцаў.
Т.: (017) 295–01–33, 295–21–31.
• СШ №190 (Нікіфарава, 19): выкладанне на беларускай і расійскай мовах. Бясплатная музычная адукацыя і спартыўныя секцыі.
Т.: (017) 260–24–90; e-mail: sch190@minsk.edu.by.
• СШ №60 (Лібкнехта, 82) – навучанне з музычным ухілам. У школе дзейнічаюць гурткі, клубы, музей, творчыя і грамадскія аб'яднанні.
Т: (017) 208–69–74, 209–94–49.
• СШ № 68 (зав. Ахоцкі, 17): набор у класы з фальклорна-тэатральным напрамкам.
E-mail: sch68@minsk.edu.by ; т. (017) 243–76–82.




**Мінск. Беларускамоўныя класы ў рускамоўных школах**
• СШ №11 (Асаналіева, 14) – школа з агульнаэстэтычным ухілам.
Т.: (017) 277–45–34, 275–59–10.
• СШ №108 (Уральская, 15) – спартыўныя гурткі і секцыі, вячэрнія класы.
E-mail: sch108@minsk.edu.by ; т.: (017) 245–20–41.
• СШ №131 (Убарэвіча, 74) – вывучэнне замежных моваў (нямецкай, польскай, французскай, іспанскай, шведскай), харэаграфіі.
Т.: (017) 340–62–38, 345–14–12.
• СШ №180 (Радужная, д.8, корп.3) – паглыбленае вывучэнне англійскай мовы.
Т.: (017) 250–10–49.
• СШ №209 (Рафіева, 91) – вывучэнне французскай мовы, вакальныя студыі, спартыўныя секцыі.
Т. (017) 274–69–71, 256–48–77.
• СШ №110 (Брэсцкая, 66) – дзейнічае праграма «Здароўе».
Т. (017) 278–58–81, 278–11–12.

**Гродна**
• СШ №32 (Ліможа, 11)
Т.: (0152) 48–50–48; 43–64–03.

**Магілёў**
• СШ №1 (Першамайская, 24)
Т.: (0222) 22–12–64; 31–07–85.

**Баранавічы**

• СШ №14 (Піянерская, 98)
Т.: (0163) 42–51–50.

**Дзіцячыя дашкольныя ўстановы Мінска, дзе ёсць беларускамоўныя групы:**

**Заводскі раён**
• ДДУ №202 (Партызанскі пр., 85а). Т.: (017) 245–12–92 .

**Кастрычніцкі раён**
• ДДУ №97 (Ландэра, 18). Т.: (017) 277–89–11, 277–49–20; ddu97@minsk.edu.by.

**Ленінскі раён**
• ДДУ №101 (Якубава, 60). Т.: (017) 238–88–61.

**Маскоўскі раён**
• ДДУ №143 (Караля, 36). Т.: (017) 200–96–20.
• ДДУ №412 (пр. Газеты Праўда, 64а). Т.: (017) 271–68–47.
• ДДУ №473 (Ясеніна, 6/4). Т.: (017) 271–94–06.
• ДДУ №541 (Ясеніна, 137). Т.: (017) 205–37–24.

**Партызанскі раён**
• ДДУ №543 (Бумажкова, 39). Т.: (017) 235–36–02.

**Першамайскі раён**
• ДДУ №220 (Каліноўскага, 11а). Т.: (017) 265–23–02.
• ДДУ №273 (Каліноўскага, 89. Т.: (017) 263–06–84.
• ДДУ №522 (Русіянава, 23). Т.: (017) 260–65–01.
• ДДУ №66 (пр. Незалежнасці, 102а). Т.: (017) 264–60–52.
• ДДУ№361 (Цікоцкага, 44). Т.: (017) 263–38–28.

**Савецкі раён**
• ДДУ №314 (Багдановіча, 68а). Т.: (017) 234–25–61.

**Фрунзенскі раён**
• ДДУ №561 (Сухараўская, 9). Т.: (017) 259–09–90.
• ДДУ №534 (Матусевіча, 59). Т.: (017) 257–76–91.
• ДДУ №570 (Чайлыткі, 8). Т.: (017) 215–60–44

**Цэнтральны раён**
• ДДУ № 187 (Кахоўская,64а). Т.: (017) 213–06–71 – 6 груп, афіцыйна цалкам беларускі.
• ДДУ № 218 (б-р Шаўчэнкі, 13). Т.: (017) 288–09–33.
• ДДУ № 234 (Карастаянавай, 19). Т.: (017) 288–50–75.
• ДДУ № 503 (Радужная, 4, корп.2). Т.: (017) 234–36–05.

* * *

Дасылайце нам інфармацыю пра беларускамоўнае навучанне ў вашай вобласці і раёне. Пішыце пра новыя ініцыятывы бацькоў і ўпраўленняў адукацыі!

# Да свята апошняга званка

## фанаграмы, ноты, вершы, танцы

**Шаноўныя сябры! Спадзяемся, вам прыдасца ўжо традыцыйная падборка сайта Nastaunik.info да Свята апошняга званка. Зычым, каб развітанне вучняў са школай стала светлым і запамінальным!** ***(матэрыялы, якія дапамогуць зладзіць Свята апошняга званка, вы знойдзеце тут: http://nastaunik.info/news/?id=6670)***

### Апошні званок

*(муз., сл. Юрыя Несцярэнка)*

Кветак букеты і віншаванні,
Радасці слёзы і сум развітання
Прыносіць з сабой да нас незнарок
Апошні званок.

Ты можаш не верыць – але гэта сёння
Мы ўзялі апошнія сшытак і дзённік
І нас запрашае апошні званок
На апошні урок!

*Прыпеў:*

Празвініць і заціхне апошні званок:
Усе на ўрок, усе на ўрок!
Вось і скончыўся школьны апошні наш год
Вясновым днём,
апошнім званком.

Ты падзяляеш маё хваляванне
Невыпадковае наша спатканне,
І зразумець гэта нам дапамог
Апошні урок.

Жыццё адкрывае для нас сваю далеч,
Мы вольныя ажыццяўляць свае мары
І праводзіць нас на скрыжаванне дарог
Апошні званок.

### Нашы настаўнікі

*(муз., сл. Н.Ірванцова-Друцкага. З «Альбома школьных песень»)*

Першага верасня вы нас сустрэнеце
Позіркам строгім на школьным парозе,
Добрай усмешкай і мудрымі словамі –
Нашы настаўнікі.
Зноў павядзеце нялёгкай дарогай,
З вашай падтрымкай і дапамогай
Мы авалодаем новымі ведамі –
Нашы настаўнікі.

Нашы настаўнікі –
З удзячнасцю, з павагай і радасцю
Спяваем мы песню для вас.

Зменяцца рытмы модных мелодый,
Вашы трывогі – нашы прыгоды.
Рэхам мінулых гадоў назаўсёды –
Нашы настаўнікі.
Так нечакана апошні званок
Нас павядзе на апошні урок,
І развітацца прыходзяць да нас
Нашы настаўнікі.

Нашы настаўнікі –
З удзячнасцю, з павагай і радасцю
Спяваем мы песню для вас.

Могуць складацца ўмовы па-рознаму,
Але зразумець і дзяцей і дарослых
Нам дапамогуць, параюць, падкажуць
Нашы настаўнікі.

Нашы настаўнікі –
З удзячнасцю, з павагай і радасцю
Спяваем мы песню для вас.
З удзячнасцю, з павагай і радасцю
Спяваем мы песню для вас.

### Песня пра канікулы

*(муз. Т. Грыневіч, сл. А. Церашковай)*

Бэзу пах у вокны просіцца.
Май буяе на двары.
Развітаемся да восені,
Хутка стрэнемся, сябры!

Золкі нас чакаюць росныя,
Пыл няведамых дарог… …
Пасталелыя, падрослыя,
Пераступім зноў парог.

Сядзем мы на месцы звыклыя,
І праз нейкіх два-тры дні
Узгадаем пра канікулы:
Эх, кароткія былі!

### Школьны званок

*(муз. Т. Грыневіч, сл. С.Сокалава-Воюша)*

Веды ў падручніках спяць да пары,
Веды хаваюцца ў лічбах і словах,
Веды найлепшыя нашы сябры,
Іх абуджае для нас адмыслова:

*Прыпеў:*

Дзынь-дзынь, школьны званок,
Дзынь-дзынь – нам вестунок,
Дзынь-дзынь, значыць вось-вось
Вывучым новае штось.

Веды паўсюль, ды на школьным стале
З іх паўстае навуковае мора,
Веды ў камп'ютарах дрэмлюць, але
Мы іх знаходзім на маніторах.

*Прыпеў:*

Дзынь-дзынь, школьны званок,
Дзынь-дзынь – нам вестунок,
Дзынь-дзынь, значыць вось-вось
Вывучым новае штось.

Так, пераходзячы з класа ў клас,
Класныя веды ў жыццё пераносім,
Час праляціць – не пазнаеце нас
Мы за турботы вас перапросім.

*Прыпеў:*

Дзынь-дзынь, школьны званок,
Дзынь-дзынь – нам вестунок,
Дзынь-дзынь, значыць вось-вось
Вывучым новае штось.






## «Альбом школьных песень»: канцэрты-прэзентацыі для школ

Прапануем для вашай школы (навучальнай установы) канцэртную праграму з песнямі, якія ўваходзяць у «Альбом школьных песень».

Альбом змяшчае новыя песні з сучаснымі аранжыроўкамі, да кожнай песні дадаецца «мінусоўка» для далейшай самастойнай працы.

У канцэрце-прэзентацыі ўдзельнічаюць аўтары і выканаўцы, якія стварылі дыск, а таксама спецыяльныя госці. Песні прысвечаны разнастайным праявам школьнага жыцця («Першыя ўрокі», «Нашы настаўнікі», «Школьны вальс», «Лета», «Дырэктар школы», «Апошні званок», «Вальс развітання» і г.д.).

Мы прыязджаем на сваім транспарце, прывозім інструменты. Па магчымасці, на некаторых сцэнах мы просім паставіць гукаўзмацняльную апаратуру (калонкі, узмацняльнікі, мікшэрны пульт).

Месцам правядзення прэзентацыі можа быць актавая зала, аўдыторыя, музей, бібліятэка. З досведу ранейшых прэзентацый маем просьбу для арганізатараў: галоўнае – не колькасць гледачоў (асабліва непажадана затрымліваць вучняў пасля ўрокаў і заганяць на канцэрт). Галоўнае – сабраць аўдыторыю з людзей, неабыякавых да беларускай мовы, да беларускай культуры.

З павагай,
Юры Несцярэнка,
аўтар і выканаўца, арганізатар і менеджар праекта. Кантакты: +375 29 557 87 95 (МТС); +375 44 794 87 95 (Velcom); Nestary@yandex.ru

Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта ***Nastaunik.info***
Адрас для допісаў: ***nastaunik.info@gmail.com***
Наклад 200 асобнікаў